Грамадскае незалежнае выданне, выходзіць са студзеня 1997 года

# Газета для вас

Цана па падпісцы — 3000 руб.
Цана ў розніцу — 5000 руб.

ІВАЦЭВІЧЫ - БАРАНАВІЧЫ - БЯРОЗА-ПРУЖАНЫ

16—22 студзеня 1999 года
№ 3 (161)
Наш індэкс 63834

НАВІНЫ: ЧАС МЯСЦОВЫ

ІВАЦЭВІЧЫ

## Замест рэканструкцыі — кааператыў

У нашай газеце ў № 72 за мінулы год быў змешчаны здымак будынка інтэрната МПМК-11 па вуліцы Чкалава ў Івацэвічах. Скажам прама, непрывабны выгляд гэтага інтэрната: вокны павыбіваны, некаторыя забіты дошкамі. І ў ім жывуць людзі.

Тады газета пісала: як паведаміў старшыня МПМК-11 Н. М. Стральчук, зроблены праект рэканструкцыі інтэрната. Гэта ўжо будзе маласямейка. Аднак тых нямногіх жыльцоў адтуль не могуць выселіць і таму не могуць распачаць рэканструкцыю будынка.

Такія былі планы кіраўніцтва мехкалоны. Але на нядаўнім пасяджэнні райвыканкама прынята зусім іншае рашэнне.

У сувязі з тым, што на капітальны рамонт інтэрната патрэбны вялікія грошы з бюджэту ( а іх пакуль няма), вырашана на базе гэтага інтэрната стварыць жыллёва-будаўнічы кааператыў і абсталяваць тут 24 кватэры.

Вось такі далейшы лёс інтэрната па вуліцы Чкалава ў г. Івацэвічы.

## На поўным сур'ёзе...

Калі верыць афіцыйнай статыстыцы, па выніках адзінаццаці месяцаў мінулага года калгасы і саўгасы Івацэвіцкага раёна перавыканалі гадавы план па вытворчасці і продажу дзяржаве малака і мяса. Поспех? Несумненна. Значыць, можна з упэўненасцю зрабіць вывад, што справы ў жывёлагадоўлі раёна ідуць не толькі добра, але і бліскуча. Засмучае толькі вось што.

Бываючы ў вёсках, бачыш мноства пустых жывёлагадоўчых памяшканняў. Значна скарацілася колькасць жывёлы, бо, відаць, і тую, што зараз ёсць, няма чым карміць. Гэта пацвердзіла нядаўняя раённая нарада з удзелам кіраўнікоў гаспадарак. У прыватнасці, раённыя чыноўнікі на поўным сур'ёзе рэкамендавалі старшыням калгасаў у зімовы час весці касьбу траў на тых участках, дзе не змаглі з-за падтаплення ў спрыяльны час убраць участкі. Не ад добрага жыцця выспелі такія рэкамендацыі. А маглі яшчэ парэкамендаваць тым жа кіраўнікам прыступіць да зімовай уборкі часткі нязжатай збажыны ў тых гаспадарках, дзе яна не ўбіралася. Як, напрыклад, у калгасе "40 год Кастрычніка" або кукурузы ў калгасе "Любішчыцы", бульбы ў "Бальшавіку" і ў "40 год Кастрычніка".

І горка, і смешна...

☎ АЛЁ, РЭДАКЦЫЯ?

## Хто абароніць могілкі?

*Такое пытанне задаюць нашы чытачы па рэдакцыйным тэлефоне. Справа ў тым, што ў Івацэвічах агароджу старых могілак рабуюць літаральна на вачах ва ўсіх. І нікому няма да гэтага справы. Ці ёсць у нас улада ў горадзе? Такое пытанне ставяць чытачы.*

І, думаецца, небеспадстаўна. Наша газета пісала ўжо аб тым, што трое рабаўнікоў былі спаймыны, узбудзілі крымінальную справу, але ж чамусьці яе не давялі да канца. Прозвішчы рабаўнікоў не былі нават абнародаваны, а новых пакуль што ніхто не ловіць. Варта сёння пабываць на гарадскіх могілках і ўпэўніцца ў тым, што рабаванне працягваецца. Верхняя частка агароджы (а гэта сплаў каляровых металаў) па-варварску абламана і забрана. Цяпер ужо рэдакцыя звяртаецца да мясцовых уладаў: хто абароніць могілкі ад мясцовых рабаўнікоў? Чытачы нашай газеты чакаюць адказу і канкрэтных дзеянняў.

## КОНКУРС "САМАЯ ОБАЯТЕЛЬНАЯ И ПРИВЛЕКАТЕЛЬНАЯ"



*МАРИНА. По гороскопу — Овен. В жизни, на экране нравятся многие, но одного кумира у меня нет. Надеюсь, что когда-нибудь появится. Я заканчиваю школу, планы на будущее грандиозные. Надеюсь стать хорошим парикмахером или модельером.*

БАРАНОВИЧИ

## Убили человека и угнали машину

Около половины четвертого утра двое неизвестных с ножом напали на водителя радиотакси. Завладев машиной, преступники скрылись. Водителя доставили в больницу с ножевым ранением.

В 3.38 после звонка диспетчера такси в милицию на место происшествия выехала оперативная группа. Машину с преступниками обнаружили на улице Кирова. На требование остановиться угонщики не реагировали, пришлось сделать несколько предупредительных выстрелов в воздух. Так как преступники не остановились, пришлось стрелять по колесам.

Преступниками оказались 18-летний и ранее судимый 30-летний жители г. Барановичей. У них изъяли два ножа. Эксперты установили, что ими был ранее убит мужчина 1960 г. р. Его труп нашли в скверике по ул. Фроленкова.

БЯРОЗА

## Падлічылі — праслязіліся

Закончыўся сельскагаспадарчы год, час думаць пра веснавыя палявыя работы. Аднак аналіз фінансавага становішча раёна паказвае, што многія гаспадаркі не ў стане пакрыць расходы на правядзенне пасяўных работ у гэтую адказную кампанію.

Трывожыць землеробаў машынна-трактарны парк. Больш за палову наяўных трактароў эксплуатуецца з даўно закончыўшымся амартызацыйным тэрмінам. Латаны-пералатаны прычапны інвентар. З 180 збожжаўборачных камбайнаў, што маюцца ў гаспадарках, 120 выпрацавалі свой рэсурс і падлягаюць спісанню. Тэхніка ўстарэла фізічна і маральна. Па гэтай прычыне, па меркаванні спецыялістаў, да 30 працэнтаў недабіраецца ўраджаю.

З улікам мінімальных затрат на веснавую сяўбу патрабуецца каля 540 мільярдаў рублёў. Хоць дзяржава выдзяляе сродкі на падзешаўленне мінеральных угнаенняў, набыццё гаруча-змазачных матэрыялаў і запчастак, дае авансы пад будучы ўраджай, аднак грошай катастрафічна не хапае. Дэфіцыт на пачатак года склаў 400 мільярдаў рублёў.

Банкрутам прызнаны калгас "Белаазёрскі" . На грані гэтага калгасы "Жураўінка", "Прагрэс", "Рассвет", саўгасы "Прамень" і "Альшэўскі". Толькі пяць гаспадарак з 18 (калгасы "Ніва", "Спорава", "Лясковічы", саўгасы "Бярозаўскі" і "Пескаўскі") завяршылі год з перавышэннем даходаў над расходамі.

Адкуль браць грошы? Фінансавыя разлікі паказваюць, што толькі вытворчасць малака дае прыбытак, вытворчасць жа мяса стратная. І зноў спадзяванні на дзяржаву. Магчыма, як і ў ранейшыя гады, яна падкіне грошай на сяўбу.

## Чаму апусцеў маленькі рынак?

Незвычайнай пустатою сустракаў у аўторак, 12 студзеня, маленькі рынак наведвальнікаў. Не было палатак. Рэдкія гандляры працавалі ў гэты дзень.

Аказваецца, прычынаў тым, што ў Бярозу завітала праверка з рэспубліканскай санэпідстанцыі. "Штрафамі будуць папаўняць бюджэт", — вырашылі прадпрымальнікі і палічылі за лепшае не з'яўляцца на рынку і не гандляваць. Бо колькі часу давядзецца адрабляць той штраф. А ў наш час (агульнага збяднення пакупнікоў) многія і так вымушаны зварочваць сваю дзейнасць.

ПРУЖАНЫ

**Паважаныя чытачы! Рады вам паведаміць, што тэрыторыя распаўсюджвання "Газеты для вас" пашырылася: з сённяшняга нумара яе будуць атрымліваць і жыхары г. Пружаны і раёна. А інфармаваць аб жыцці і падзеях на Пружаншчыне чытачоў "Газеты для вас" будуць на грамадскіх пачатках члены мясцовай маладзёжнай арганізацыі "Грамадзянскі форум". Дарэчы, па ўсіх хвалюючых пытаннях і праблемах жыхары г. Пружаны і раёна могуць звяртацца ў гэтую ж арганізацыю па тэлефоне 2-01-88. Сюды ж можна звяртацца і з інфармацыяй і пісьмамі для "Газеты для вас".**

## Ці надзейны "Віцязь"?

Ці заўсёды радуюць нас электронныя памочнікі? Здараецца, што засмучаюць. Так, у Пружанах па вул. Кастрычніцкай, 54 "А" у адной з кватэр адбылося самаўзгаранне тэлевізара. Агнём знішчана ўся маёмасць, якая знаходзілася ў пакоі, поўнасцю пашкоджана ўнутраная аддзелка.

Такі вось "падарунак" зрабіла гэтай сям'і вытворчае аб'яднанне "Віцязь" у новым годзе, выпусціўшы злашчасны тэлепрыёмнік. Можна многа гаварыць аб пажарнай бяспецы, але як засцерагчыся ад практычна новага тэлевізара, які самаўзгараецца? І дзе гарантыя таго, што наступнае здарэнне не закончыцца чалавечымі ахвярамі.

Пацярпеўшыя ад няякаснага вырабу збіраюцца звярнуцца з просьбай у вытворчае аб'яднанне "Віцязь" аб пакрыцці матэрыяльных страт, нанесеных пажарам. Калі кіраўніцтва аб'яднання адмовіцца, то пацярпеўшыя маюць намер перадаць справу ў суд.

Маладзёжная арганізацыя "Грамадзянскі форум" збіраецца аказаць дапамогу пацярпеўшай сям'і, у тым ліку і юрыдычнае забеспячэнне судовага працэсу. Прынята таксама рашэнне аформіць гэтай сям'і бясплатную падпіску на "Газету для вас".

## "Мая краіна — Беларусь"

Пад такім дэвізам у Пружанскай дзіцячай бібліятэцы праходзіць конкурс-выстава малюнкаў. У ёй бяруць удзел вучні 4-11 класаў. Гэта першая сур'ёзная акцыя маладзёжнай арганізацыі "Грамадзянскі форум" пасля рэгістрацыі яе мясцовай вертыкаллю.

На выставе прадстаўлена каля 70 малюнкаў. Пераможцаў чакаюць цікавыя прызы, а кожны ўдзельнік акцыі будзе адзначаны падарункам.

● ГОЛАС НАРОДА

# БЕЛАРУСЬ—РАСІЯ. АБ'ЯДНАЦЦА ЦІ ЗАХАВАЦЬ НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ?

***Інтэграцыя Расіі і Беларусі, здаецца, нікога не пакідае раўнадушным. Нават мясцовыя газеты, не кажучы ўжо пра цэнтральныя, прысвячаюць гэтай падзеі значную ўвагу. Безумоўна, што гэта тэма цікавая і простаму чытачу. Таму карэспандэнт "Газеты для вас", выйшаўшы на вуліцы г. Івацэвічы з пытаннем, пазначаным у загалоўку, і не сумняваўся, што жыхарам нашага горада будзе што сказаць на гэты конт. Вось якія адказы атрыманы.***



**Аляксей:** Я — за аб'яднанне. Мы заўсёды з Расіяй жылі добра, а зараз тым больш павінны падтрымліваць найлепшыя адносіны. Няма ў Расіі парадку? Ну дык будзе! Толькі вярхушку антынародную скінуць трэба. Я давяраю нашаму прэзідэнту. Калі ў Расіі да ўлады прыйдуць такія людзі, як наш прэзідэнт, то аб'яднанне можна правесці і вельмі хутка.



**Васіль:** Калі казаць шчыра, то яшчэ і не ведаю, што і адказаць. Інтэграцыя — гэта добра, але вы пагльдзіце, што ў той Расіі зараз робіцца. Я некалькі раз бываў там і скажу, што парадку, гаспадара там як не было, так і зараз няма. Які сэнс аб'ядноўвацца з такой, прабачце, бесталковай краінай? Гэта тое самае, што сунуць галаву ў палаючы кацёл, а пасля думаць — навошта я гэта зрабіў?



**Вера Антонаўна:** Я з радасцю сустрэла гэтую навіну. З Расіяй мы павязаны назаўсёды, у нас жа столькі агульнага. Тое, што моладзь раўнадушна адносіцца да гэтых падзей, крыху засмучае, але, думаецца, што з цягам часу і моладзь зразумее, што з Расіяй разам мы — кулак.

***АД АЎТАРА.** Як бачна з адказаў нашых рэспандэнтаў, аб'яднанне Беларусі і Расіі выклікае самыя розныя меркаванні, але "за" гучыць усё ж такі больш, чым "супраць". Хоць, з іншага боку, толькі эмоцыямі можна растлумачыць той факт, што, гаворачы аб аб'яднанні, мала хто гаворыць пра тое, якім яно будзе. Бо ніхто не разважае пра тое, як жыць разам з краінай, дзе час ад часу ўспыхваюць войны, дзе гадамі не плацяць пенсій, зарплату, дзе ў час галодных забастовак паміраюць людзі... Сапраўды, ці не сунем мы тым самым галаву ў палаючы кацёл? Цікава, а ці пагадзіліся б нашы рэспандэнты з пытаннем: ці згодны вы, каб зарплату (пенсію) вам не плацілі год, а ваша прадпрыемства перасталі фінансаваць або сталі фінансаваць як прыдзецца. У Расіі — гэта ж цяпер рэч звычайная...*

*А. ГОРБАЧ.*

НАВІНЫ РЭСПУБЛІКІ

## Перапішуць усіх

***З 16 па 23 лютага пройдзе чарговы перапіс насельніцтва Беларусі.***

Як паведамляе міністэрства статыстыкі і аналізу, перапіс правядуць 52 тысячы спецыялістаў. Сярод іх больш за 32 тысячы лічыльнікаў, якія будуць хадзіць па хатах і запаўняць спецыяльныя бланкі. На аднаго лічыльніка ў горадзе прыпадае 350 жыхароў, а ў сельскай мясцовасці 250. Лічыльнікам ужо пашылі партфелі, падрыхтавалі пасведчанні і іншы неабходны інструментарый. За сваю працу кожны з іх атрымае 3 мінімальныя заробкі. Загадчыкам перапісных аддзелаў пашчасціла больш, ім дадуць па 5 мінімалак. Разам гэта больш за 80 мільярдаў рублёў. Кіраўніцтва міністэрства просіць вызваліць гэтыя выплаты ад падаходнага падатку.

Лічыльнікі, аднак, могуць завітаць да грамадзянаў крыху раней. З 11 па 14 лютага яны абыдуць свае ўчасткі, каб папярэдне зафіксаваць усе апошнія змены. Грамадзянам, якія ў час перапісу не пусцяць лічыльнікаў у кватэру, давядзецца самім прыйсці на ўчастак для запаўнення бланкаў.

## Дно яшчэ не дасягнутае

***Беларусь займае 11-е месца сярод краінаў былога СССР па ўзроўні сярэднямесячнай заработнай платы.***

Па стану на канец снежня сярэдняя зарплата ў Беларусі была эквівалентная 23 доларам ЗША. Менш атрымлівалі толькі ў Арменіі (22 долары), Грузіі (20), Узбекістане (16,5) і Таджыкістане (10). Лідэрам па гэтым паказчыку аказалася Эстонія — 310 долараў. Сярэдняя зарплата ў Літве складала 260 долараў, у Расіі — 88,6, на Украіне — 48,8.

У той жа час у Беларусі самы нізкі сярод краінаў былога Саюза пражытачны мінімум — 11 долараў (для параўнання: на Украіне — 21,1 долара, у Расіі — 35,8, Азербайджане — 88,6, Таджыкістане — 100). Гэта дазволіла ёй заняць 6-е месца па суадносінах сярэднямесячнай зарплаты да пражытачнага мінімуму — 2,1 раза. Лідэрамі з'яўляюцца Эстонія і Літва, дзе ўзровень зарплаты вышэй за пражытачны мінімум адпаведна ў 8,6 і 8,3 раза. Горш за ўсё справы ў Таджыкістане, дзе сярэдняя зарплата ў 10 разоў ніжэй за пражытачны мінімум.

Між тым, па інфармацыі "Аргументов и фактов", у канцы снежня Беларусь дзяліла апошняе месца з Азербайджанам па ўзроўні мінімальнай зарплаты, якая ў абедзвюх краінах складала 1,4 долара (для параўнання: у Таджыкістане — 2 долары, Расіі — 3,9, на Украіне — 15,7, у Эстоніі — 81, Літве — 107,5 долара).

## Фонд Сораса зноў апраўданы

***Беларускі фонд Сораса (БФС) не парушаў падатковага заканадаўства — такое рашэнне прыняла калегія Вышэйшага гаспадарчага суда. Суддзі цалкам рэабілітавалі Беларускі фонд Сораса, што, аднак, не азначае хуткага аднаўлення яго дзейнасці.***

Справа супраць Фонду ўзнікла амаль два гады таму, калі падатковая інспекцыя Ленінскага раёна Мінска вырашыла, што "сорасаўцы" няправільна выплачвалі падаткі ды допускалі іншыя парушэнні. У выніку на Фонд быў накладзены штраф памерам амаль у 3 мільёны долараў. Фонд адмовіўся плаціць гэтыя грошы. У адказ у верасні 1997 года ўлада арыштавала маёмасць Фонду, і з тых часоў гэтая дабрачынная арганізацыя ў Беларусі не дзейнічае. Між тым, судовыя цяжбы працягваліся, прычым з пераменным поспехам. Спачатку ў Мінскім абласным гаспадарчым судзе Фонд быў прызнаны невінаватым, потым больш высокая судовая інстанцыя пацвердзіла ягоную запазычанасць дзяржаве. Нарэшце справа дайшла да калегіі Вышэйшага гаспадарчага суда, якая вырашыла, што ранейшыя прэтэнзіі да БФС неправамоцныя.

## Ва ўласнай кватэры жывецца лепей

***З 1989 года і па лістапад 1998 года ва ўласнасць грамадзян Беларусі перайшло 854,4 тысячы кватэр — гэта амаль палова ўсёй колькасці кватэр, што падлягаюць прыватызацыі. Пра гэта паведамляе міністэрства статыстыкі і аналізу Беларусі.***

Паводле інфармацыі міністэрства, толькі за студзень-лістапад 1998 года беларускія грамадзяне прыватызавалі 76,4 тысячы кватэр. Гэта некалькі больш, чым за аналагічны перыяд 1997 года.

Кватэры актыўней за ўсё прыватызаваліся ў Мінску (23,1 тысячы кватэр або 30 працэнтаў ад агульнай колькасці кватэр, прыватызаваных сёлета), у Гомельскай (13,8 тыс. кватэр) і ў Віцебскай (10,8 тыс. кватэр) абласцях.

*БелаПАН.*

ПРОШУ СЛОВА

# ЗАКОН О ВЫБОРАХ: НЕДОСТАТКИ СУЩЕСТВЕННЫ

Если о выборах депутатов парламента и президента пока говорить рано, то о выборах в местные Советы говорить нужно во весь голос. 4 апреля этого года состоятся очередные выборы. Накануне этого события власти Беларуси готовят избирательный кодекс, который охватит весь комплекс избирательных законов. Вокруг этого проекта идут теперь ожесточенные споры. И не случайно, ибо он может стать в дальнейшем базисным для принятия других составных частей избирательного кодекса. Пройдя апробацию, закон о выборах в местные Советы депутатов может стать основным для проведения последующих выборов, если, конечно, не произойдут политические изменения в стране.

Мне хотелось бы обратить внимание на некоторые положения закона. Прежде всего, многие статьи носят неконкретный, расплывчатый характер или отсылают к другим нормативным актам, что дает возможность для произвольного толкования ряда статей. Когда невыполнение законов в Беларуси стало чуть ли не нормой поведения, считаю, что каждое правовое положение должно быть изложено особенно тщательно.

В законе сохранилась норма, допускающая участие граждан России в местных выборах. Это положение противоречит даже Конституции 1996 года. Ее статья 37 допускает для решения государственных дел исключительно граждан РБ.

Интересно, что избирательные комиссии формируются исполнительными органами власти. В результате в них будут представлены только угодные властям "представители" народа.

Повторное игнорирование Конституции просматривается в лишении права общественных организаций выдвигать на выборах своих кандидатов в депутаты.

Абсурдной выглядит статья закона, запрещающая выдвижение кандидата в депутаты, если он имеет административное взыскание. К примеру, проехал на красный свет светофора и оштрафован — значит, не быть тебе уже депутатом. Это опять же противоречит Конституции РБ и резко сужает круг лиц, желающих избираться в органы власти.

Обращает на себя внимание то, что в законе ограничена возможность агитации за кандидатов в депутаты, что на практике приведет к незнанию избирателями своих кандидатов.

В законе не нашлось места для определения статуса наблюдателей за ходом и результатами выборов. Решение вопроса о допуске на избирательный участок представителей общественности находится в компетенции самой избирательной комиссии. Ясно, что получить такое разрешение будет весьма сложно.

Практически отсутствует контроль за итогами выборов во всех избирательных комиссиях, что создает предпосылку для подмены итоговых протоколов или других фальсификаций с целью получения нужного результата.

В законе сохранилась норма — 50% явки избирателей в первом туре (25% во втором) для признания выборов действительными. Такая высокая явка избирателей малореальна, к тому же она противоречит принципу проведения свободных выборов. Анализ закона позволяет сделать вывод, что по нему невозможно проведение демократических и равных выборов в местные органы власти. Создается впечатление, что выборы властям нужны только для демонстрации якобы демократического имиджа страны. Формирование же полноценных местных Советов в планы властей похоже не входит.

*В. РАДИВОНЧИК,*
*координатор ОБСЕ*
*по Брестской*
*области.*
*г. Пружаны.*

ТАКОЕ ВОСЬ ЖЫЦЦЁ

## Як жыць далей?

Кожны дзень я задаю сабе адно і тое ж пытанне: як жыць далей? Каб адказаць на яго, раскажу пра сябе, пра сваё жыццё.

Родам я з вёскі. Выйшла замуж і пасялілася ў Івацэвічах. Жыву ў дзяржаўнай двухпакаёвай кватэры. Двое дзяцей у сям'і.

Два гады я ўжо беспрацоўная. Раней працавала лінатыпісткай у друкарні. Па спецыяльнасці ўладкавацца няма дзе. Да таго ж тры гады назад муж пакінуў сям'ю. На дзяцей атрымліваю аліменты, прыкладна адзін мільён 300 тысяч рублёў у месяц. Як на гэтыя грошы пракарміць сям'ю? А трэба ж яшчэ абуць, апрануць дзяцей, купіць школьныя прыналежнасці. Кожны месяц неабходна яшчэ заплаціць за кватэру, газ і электрычнасць. Гэта каля 800 тысяч рублёў. Няцяжка падлічыць, што на ўсё астатняе ў мяне застаецца паўмільёна рублёў. На хлеб на месяц на сям'ю з трох чалавек трэба ў два разы больш. А яшчэ да хлеба трэба мяса, малако, цукар. Я ўжо не гавару пра каўбасу, бо пра смак яе мы забыліся.

Мяне могуць спытаць, як жа мы кормімся. Скажу шчыра, калі б не бацькі-пенсіянеры, што жывуць у вёсцы, і сястра, я не ведаю, як бы мы наогул жылі.

Ніхто сёння нікім не цікавіцца: як ты жывеш, галодны ці халодны. Кожны сам па сабе. Як хочаш, так і выкручвайся. Слухаю па радыё і тэлевізары, чытаю ў афіцыйных газетах аб тым, што дзяржава, урад клапоцяцца пра нашых людзей, павышаецца жыццёвы ўзровень. Не магу сказаць, дзе ж тыя клопаты. За два апошнія гады як я не працую, ніхто маёй сям'і не толькі нічым не дапамог, але не пацікавіўся, як мы жывем.

На маіх вачах зніжаецца і зніжаецца жыццёвы ўзровень нашых людзей. Калі яшчэ два гады таму мае бацька і маці сумарную пенсію атрымлівалі 40 долараў, то зараз — 20.

Пра цэны — асобная размова. Іх абяцалі то знізіць, то замарозіць, а яны ўсё растуць і растуць. І прадукты, і ўсе тавары такія дарагія, што страх бярэ. Большасці нашых людзей яны не па кішэні, а тым больш мне.

Апошнія два гады, напрыклад, сабе з адзення я нічога не змагла купіць. Толькі дзецям і то самае неабходнае.

Аб тым, што мне і многім людзям жывецца ўсё цяжэй і цяжэй, сведчыць той факт, што асобныя прадукты прадаюць у магазінах па спісах. Уявіце сабе, што на месяц на дарослага чалавека адпускаецца 200 грамаў масла. А калі хто на дыеце ці цяжка хварэе?

Як жа жыць далей? Ведаеце, страшна думаць пра гэта. Не пра сябе асабіста клопаты. Вельмі шкада дзяцей. Іх дзяцінства нялёгкае.

У светлую будучыню, куды вядуць нас правадыры, я канчаткова згубіла веру. Хто мне верне яе?

*Людміла ВАЗНІШЧЫК,*
*жыхарка г. Івацэвічы.*

РЫНКАВАЯ ПЛОШЧА

# ШТО ПАЧЫМ?

*Цэны на рынках нашага рэгіёна па стану на 14.01.99 г. (у тысячах руб. за адзін кілаграм):*

| | Івацэвічы | Баранавічы | Бяроза | Пружаны |
|---|---|---|---|---|
| Свініна | 300—320 | 260—350 | 220—280 | 250—300 |
| Сала салёнае | 270—300 | 350 | 220 | 270—300 |
| Алей (1 л) | 220—330 | 300—360 | 240—260 | 380 |
| Яйкі | 90—110 | 80—100 | 100 | 80—90 |
| Малако (3 л) | 39 | 50—60 | 45 | 40 |
| Тварог | 55 | 65 | 65 | 50—60 |
| Масла сметанк. | 200 | 200 | 240 | 230—260 |
| Цыбуля рэпч. | 60—70 | 100—160 | 75 | 60—70 |
| Капуста | 10—15 | 10—20 | 15 | 10—15 |
| Бульба | 10—14 | 15—20 | 12—15 | 10—15 |
| Морква | 10—12 | 10—20 | 12—17 | 10—15 |
| Часнок | 130—140 | 130—140 | 150 | 120—150 |
| Яблыкі | 70—90 | 80—120 | 90—100 | 70—90 |
| Лімоны | 380 | 290 | 380 | 350—400 |
| Апельсіны | 270 | 240—290 | 295 | 250—300 |
| Бананы | 270 | 200—290 | 295 | 280 |
| Грэчка | 135 | 140 | 130 | 140 |
| Макар. вырабы | 110—120 | 70—100 | 90—100 | 120 |
| Рыс | 165 | 170 | 170 | 170 |
| Цукар | 100 | 110 | 100 | 120 |
| Мёд | 600 | 600—800 | 650 | 500 |

**ВАЛЮТА НА "ЧОРНЫМ" РЫНКУ**

| | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 долар ЗША | 280 | 310 | 300 | 330 | 270 | 310 | 280 | 300 |
| 1 дойчмарка | 150 | 175 | 150 | 175 | 190 | 240 | 160 | 190 |
| 1 рубель Расіі | 12 | 13 | 12 | 13 | 11 | 12 | 12 | 13 |

Маладзёжная Газета для вас № 9

МАЯ ПРАЦА

# Душою выкананы палёт

Цывілізаванасць, канешне, пачынаецца там, дзе людзям, дарослым і дзецям, ёсць месца і магчымасць рэалізаваць сябе, арганізаваць свой вольны час, а дзіцячае жыццё напоўніць творчасцю і азартам, спартыўным духам і цікавасцю. У Івацэвічах такім месцам з'яўляецца ГДК, дзіцячы харэаграфічны калектыў "Крынічанька". Кіруе ім харэограф Святлана Падгорная, адна з тых рамантычных асобаў, для якіх любімая



Святлана лічыць, што да кожнага дзіцяці патрэбен індывідуальны падыход.

справа — цудоўная магчымасць рэалізаваць свой творчы патэнцыял, перадаць веды сваім вучням.

Ужо 10 год як Святлана закончыла Гродзенскае культпрасветвучылішча і працуе ў Івацэвіцкім ГДК. Лік яе вучняў ідзе на сотні. Ёсць і пэўныя дасягненні. Вось, дарэчы, што сама Святлана кажа пра поспехі і праблемы ў сваёй працы.

— Праца харэографа адказная і цікавая, яна заваладвае чалавекам поўнасцю. Хоць, з іншага боку, нам нічога і не застаецца, як быць рамантыкамі, бо праца наша дзяржавай не ацэньваецца належным чынам. Галоўнае суцяшэнне, стымул у працы — гэта дзеці, іх своеасаблівы свет, цудоўная пластыка, гарачае жаданне праявіць сябе як можна лепш. І яны, канешне, праяўляюць сябе. Мы выступаем не на ўсіх мерапрыемствах раёна, вобласці. Ёсць поспехі.



Акампаніятар Аляксандр Серада — цудоўны знаўца народных мелодый.

Напрыклад, 4 гады таму з лінейнай кадрыллю "Шыбер" прабіліся і прынялі ўдзел у рэспубліканскім тэлевізійным конкурсе "Усе мы родам з дзяцінства", дзе сталі дыпламантамі.

Што да праблем... Было б няблага памяняць устарэлую апаратуру на больш новую, статычную.

Да праблем можна аднесці і дэфіцыт гімнастычных купальнікаў, чэшкаў (спецыяльны абутак танцаўшчыц).

Мы рады ўсім дзецям, што рашылі прысвяціць сябе танцу. Дзеці — гэта шчырасць, чысціня і талент, здольнасці іх бязмежныя. Важна знайсці да кожнага дзіцяці свой падыход, каб яно, нібы тая зорачка, засвяцілася. Танец — натуральны і эстэтычны выраз руху цела чалавека, яго гісторыя бярэ пачатак у старажытнасці. Танец асабліва актуальны яшчэ і таму, што сёння ўсім патрэбна добрая фігура, грацыя, стройнасць, усе жадаюць быць прыгожымі. Тыя бацькі, якія гэта разумеюць, заўсёды раяць сваім дзецям прыходзіць да нас...

Як аўтар публікацыі, дабаўлю некалькі слоў пра той незвычайны азарт, святло ў вачах дзяцей, якія заўважаеш, калі назіраеш за іх танцамі. Натхненне, з якім працуюць дзеці і іх харэограф, даюць падставы думаць, што і наша правінцыя цяпер ці крыху пазней дасць свету новыя імёны талентаў, якія праслаўляць наш правінцыяльны гарадок.



Ідзе рэпетыцыя.

А. МІХАЛЕНКА,
А. ГАНЧУК (фота).
г. Івацэвічы.

БЫВАЮТ ТАКИЕ ПИСЬМА

# Кто беден, тот тебе не пара

Для меня газета — средство расслабиться, так сказать, перевести дух. Никогда не думала, что буду писать письмо в какую-нибудь газету...

Но письмо "И снова — о любви" одной пятнадцатилетней девочки навеяло мне некоторые воспоминания, не очень приятные. Хочу кое-что Инне посоветовать. Ваша газета приглашала молодых людей поспорить на тему "Рай ли с милым в шалаше?", но я к молодым людям отнести себя никак не могу. Тем не менее — прошу слова.

Мне 41 год, но когда было 15, то я думала примерно так же, как Инна Н., мечтала о любви, семье, детях. Как и эта девочка, я не думала, что прежде всего, а в семейной жизни особенно, нужны деньги, тогда будут нормальными и любовь, и семья, и дети.

9 лет назад я рассталась с мужем. Иметь в доме тюфяка, который считает, что только за то, что он ходит на работу, ему должно быть тепло и сытно, которому ни черта не надо и которому не стыдно, что жена, крутясь, как белка в колесе, приносит в десять раз больше дохода, — выше моих сил.

Инночка, оглянись вокруг. Посмотри как все одеты, на чем ездят. И скажи, а чем плохо выйти тебе за богатого? Ты же считаешь, что главное — любовь. Но твоя любовь тебе быстро набьёт оскомину, когда ты увидишь, что жить негде, дети твои одеты хуже других, ты ничего не можешь им купить, а знакомые или не смотрят на тебя, или смотрят с ухмылкой.

Старшая дочь моя учится на платном факультете в Минске. Там почему-то надо платить столько, сколько на производстве никто нигде не получает. Младшую, ученицу, тоже надо одеть хоть более-менее. Жить тяжело, я себе отказываю во многом, но лучше так, чем тратить нервы с каким-нибудь недотёпой. Я бы снова пошла замуж, я не такая и старая, но за кого? Где они богатые мужчины или просто рыцари? Таскать баулы, спать в автобусах, на таможне (пока "суженый" будет за копейки, прости, дурака валять на каком-нибудь ПДО или валяться вдрызг пьяным на диване) я не буду...

Поэтому я своё письмо и назвала "Кто беден, тот тебе не пара" — предложением Тургенева, кажется. Когда встретишь свою большую любовь, о которой ты так мечтаешь, не забудь подумать о суровой, жестокой, безжалостной жизни, которая начинается сразу за окнами твоего дома.

Татьяна.
г. Береза.

УРАЖАННІ

# Дарога дадому

Дарога, дарога, дарога... Колькі разоў я ўжо ехала па гэтай дарозе электрычкай, цягніком, машынай і аўтобусам. Дарога дадому. Я цябе бачыла зімой і летам, вясной і восенню. І зараз прагна гляджу ў акно, праносячыся паўз заснежаны лес, застылы, нібы зачараваны. Заўсёды ўспамінаю гэты ж лес вясной, асабліва ранняй, калі толькі-толькі паказваюцца першыя лісточкі: яны яшчэ такія свежыя, не кранутыя нічым. Які цудоўны пах у іх!

Ці магла я ведаць некалькі гадоў таму, што ўсё гэта будзе са мной? Што я буду вучыцца ў Мінску і гэтай вось дарогай ехаць дадому? Жыла я тады на Поўначы, і ўспаміны пра тое жыццё нясу цяпер у сваёй памяці, у сваім сэрцы. Нават і цяпер чую шэпт завеі: "Нікуды ты не ўцячэш, не забудзеш, не адрачэшся".

Але параўнаць Поўнач і Беларусь немагчыма. Прырода Поўначы прыгожая сваёй велічнасцю, строгасцю. Няма там высокіх і магутных дрэваў, але за кароткае лета тундра ўбіраецца ў зелень. Спляшаецца жыць усё жывое. А вось зімой вельмі ціха, толькі дрэвы часам паскрыпваюць у моцныя маразы. Беларускі лес ніколі не бывае ціхі, нават зімой абавязкова пачуеш птушынае ціньканне.

На Поўначы, як і на Беларусі, шмат азёр, вялікіх і малых. Вада ў паўночных азёрах адлюстроўвае неба такім, якое яно ёсць. У спакойныя летнія дні вада здаецца сіняй, а ў дажджлівыя асеннія — шэрая, быццам брудная, ускаламучаная.

А якія прыгожыя рэкі на Поўначы! Вы бачылі калі-небудзь, як магутны Енісей ламае свае зімнія путы, тады плывуць па ім у мора і акіян глыбы льду вышынёй да пяці метраў.

Заўсёды мяне заваражвалі горы Путараны. Яны на выгляд суровыя, непрыступныя. Але лыжнікі, аматары вострых пачуццяў, так не думаюць і заўсёды спяшаюцца падняцца на іх, каб прынесці ўніз, адчуўшы поўную свабоду, на момант стаць птушкай у палёце.

Мяне вабілі горы летам, калі прачынаюцца ручаі і вадапады, калі спеюць чырвоныя парэчкі і цвітуць кветкі. З сяброўкай мы ўзбіраліся амаль на самую вяршыню, хоць гэта было цяжка, бо гара камяністая.

У Беларусі гор няма, але ёсць цудоўны, непаўторны лес і спакойныя блакітныя азёры. Вось што больш за ўсё прыцягвае мяне, і я зноў еду дадому, у вёску Соміна, дзе лес і возера знаходзяцца побач. І тут, мне здаецца, нейкае асаблівае паветра, гаючае, якое лечыць, супакойвае, дае сілы і моц жыццю.

Н. КАПЫЦІЧ,
студэнтка факультэта журналістыкі Белдзяржуніверсітэта.

КУМИРЫ

# Звёздный стандарт



Благотворительное гала-представление в Санта-Монике стало первым светским мероприятием, которое посетила **Элизабет ТЕЙЛОР** после трехмесячного затворничества, обусловленного резким ухудшением её здоровья.

Актриса, появившаяся в сопровождении всемирно известного баскетболиста Мэджике Джордана, взобралась на импровизированную сцену и поведала о "немыслимом размахе СПИДа". Г-жа Тейлор планирует перевести в фонд по борьбе с распространением ВИЧ-инфекции 300000 долларов.



Невероятно, но презентацию альбома новоявленной "звезды" **Кати ЛЕЛЬ** почтили своим присутствием едва ли не все российские "мэтры": от Ильи Резника до Александра Гафина, от Аркадия Укупника до Бориса Краснова. К тому же кто-то из "звезд" расщедрился и на поздравления — Вячеслав Добрынин, Влад Сташевский, Игорь Верник, Михаил Шуфутинский. Гвоздем программы стал аукцион, в ходе которого неизвестный мужчина приобрел Катин диск за 5000 долларов!



Телевизионные откровения **Моники ЛЕВИНСКИ** о романе с Биллом Клинтоном первоначально оценивались хозяйкой ток-шоу "Roseanne" в сумму из семи цифр.

Тем не менее представителям всемирно известной студии "King World" придется забыть о столь многообещающей идее — вопреки ожиданиям, сделка с г-жой Левински так и не состоялась.

Поговаривают, что разногласия "спровоцировал" требуемый гонорар — от двух до трех миллионов долларов...

Как сообщила намедни газета "Evening Standart", киношный "мистер Справедливость" **Том КРУЗ** в очередной раз продемонстрировал свое геройство в реальной жизни — спас богатую соседку, вернее, ее драгоценности стоимостью $150.000.

В свою очередь г-жа Симмондс, отделавшаяся легким испугом, не преминула поведать миру о том, сколь великолепен был актер в роли вечернего преследователя негодяев.

К слову, пару лет назад Том Круз уже успел проявить себя этаким суперменом, спасая пассажиров на судне вблизи берегов Италии и очертя голову бросаясь на помощь потенциальным жертвам столпотворения на премьере "Mission: Impossible". Вот уж кого следовало бы нанимать в телохранители!

●СКВОЗЬ ТЕРНИИ — В РЫНОК

# Базар вокруг рынка

В генеральном плане развития Барановичей в свое время стояло строительство крытого рынка на пересечении улиц Тельмана и Сержанта (восточный жилой массив, Ляховичско-Несвижское направление). Чтобы как-то разгрузить колхозный рынок на ул. Чернышевского, забитый до отказа во все дни и особенно в выходные, власти построили небольшие "базарчики" в самых людных точках города. В центре люди отовариваются продуктами на торговой площади фирмы "Аист", у автобусного и железнодорожного вокзалов (более удобного места для горожан и гостей трудно сыскать) бурлит вещевой рынок автобусного парка. Исполком пошел дальше в деле максимального приближения покупателей к торговым точкам — автобусные остановки устроены так, чтобы при них могли функционировать ларьки. Чем и воспользовались изворотливые предприниматели.

Обратила свое внимание на вышеприведенный пункт генерального плана председатель общества с ограниченной ответственностью "ЛЕО" Елена Терентьева. Заручившись согласием городского исполнительного комитета на проведение проектно-изыскательских работ, а, значит, и на получение разрешения на строительство, общество с энтузиазмом взялось за дело. Найдены спонсоры. Они, конечно, не собирались бросать деньги за красивые слова. Лишь убедившись, что крытый торговый центр сулит долгосрочную прибыль, соглашались профинансировать объект.

Куда уж лучше! Из бюджета города — ни копейки, а в бюджет деньги пойдут с первого дня строительства в виде налогов и — потом, постоянно — с прибыли.

Общество творчески отнеслось к разработке проекта. Изучен опыт строительства и эксплуатации подобных торговых центров в Минске, Могилеве. Побывали за границей. Подобрали исполнителей — творческую мастерскую И. К. Виноградова при Союзе архитекторов Республики Беларусь, которая, кстати, участвовала в создании проекта Минского железнодорожного вокзала. В том же 1996 году градостроительный совет Барановичей рассмотрел и одобрил проект. Дальнейшее — выдача разрешения исполкомом — дело



техники. Предприниматели уже и стройматериалы начали завозить. Ведь рынок, отвечающий современным требованиям культуры торговли, с камерами хранения, подсобно-бытовыми помещениями, упрятанными в подвалы, автостоянкой, медико-санитарной службой и даже... общественным бесплатным туалетом для инвалидов (чего, наверное, нет в Беларуси), должен быть сооружен за полтора года. С поэтапным освоением торговых мест, начиная с четвертого-пятого месяца от начала стройки.

Архитекторы в местной газете подробно изложили особенности центра, его крайнюю необходимость и пр. Но вдруг та же газета публикует статью, в которой автор ставит под сомнение целесообразность строительства рынка именно в этом месте, приводя невразумительные доводы, охая и ахая по поводу уничтожения травки-муравки и нескольких чахлых деревцев. Забыв, что проект предусматривает озеленение не только прилегающей к торговой площади территории, но и близлежащих улиц и дворовых территорий. Статья явно тянет на заказное "убийство" рынка. И пошли-поехали... Какие-то люди шастают по подъездам и собирают подписи "за" и "против". В исполком и газету пошли противоречивые письма с длинными списками подписей. Короче, с чьей-то тяжелой руки вокруг еще не построенного центра развели базар на весь город.

И исполком дрогнул, засомневался, а потом и вовсе передумал. Больше года представители "ЛЕО" околачивались по заседаниям исполкома, получая уклончивые ответы. Рассмотрение дела переносилось из-за надуманных, недоказательных вопросов. Предлагались другие места, где-то на куличках за Северным жилмассивом, куда ходят автобусы только одного маршрута, или у самого несвижского перекрестка в километре от конечных остановок.

В итоге, выпотрошив предпринимателей, растратившихся на проектно-изыскательские работы, исполком, наконец, решился на решительные меры: запретить!

Елена Терентьева не пала духом. Она считает, что не может такого быть, чтобы ни один чиновник гороблисполкомов, Верховного Совета республики не увидел экономической, финансовой, социальной выгоды рынка именно на пересечении улиц Тельмана и Сержанта. Значит, предстоит еще длительная, упорная борьба за рынок. Борьба бесправного предпринимателя со всесильным исполкомом, под настроение (чье?) меняющим свои решения.

Откровенно скажу: не специалист в торговле. Я ни за кого руку не тяну. Просто очень уж "за державу обидно". Как может она наобещать три короба, ввести своих предприимчивых граждан в расходы непомерные, а потом забрать слова обратно. Понимаю, в наше нестабильное время жизненная ситуация может измениться непредсказуемо. Но хотя бы ближайшей перспективой надо владеть. Не дураки же, простите, составляли и утверждали генеральный план города. На всех уровнях. По горизонталям и вертикалям советской и административной власти. Остался с носом "ЛЕО", а кто на очереди?

*П. НАГНИБЕДА.*

● СЛУЖБА 01

# Пільнасць суседкі

Найбольшая колькасць пажараў у мінулым годзе здарылася ад неасцярожнасці пры курэнні. У прыватнасці, асноўнымі віноўнікамі вогненных здарэнняў на той момант былі нецвярозыя асобы. Летась ад непатушаных цыгарэт у руках выпівак загінулі 11 чалавек, з іх чацвёра яшчэ зусім малых дзетак. На вялікі жаль, яшчэ не ўсе навучыліся атрымліваць урокі з чужых памылак, нават тады, калі гэтая памылка вымяраецца жыццём.

Вось і сёлета ўжо ў першы дзень Новага года разгарэўся пажар у адным з шматкватэрных жылых дамоў у Івацэвічах. Яго віноўнік — гаспадар кватэры 33-гадовы Сяргей Карповіч. Ён ужо не памятае дакладна, з чаго пачаўся сапраўдны ланцужок п'янак напрыканцы года мінулага: не то пачаў праводзіць стары, не то сустракаць новы. Але частыя п'янкі мужа (сябрукі-выпівакі пачалі наведвацца ў кватэру Карповічаў) надакучылі жонцы і тая разам з дзецьмі вырашыла яго пакінуць.

Прачнуўся пасля моцнай п'янкі з прычыны сустрэчы Новага года раніцай 1 студзеня Сяргей Васільевіч і зноў пацягнуўся да бутэлькі віна, якая цудам засталася яшчэ непачатай. Любавацца ёю Карповіч не стаў: не марудзіўшы апаражніў і ад атрыманай асалоды зноў расцягнуўся на ложку і закурыў.

Суседка Карповічаў з другога паверха шчыравала на кухні, як раптам адчула нейкі дужа непрыемны пах нечага паленага. Гэты смурод ніяк не вязаўся з пахам нават прыпаленай ежы.



Суседка адразу ж успомніла, што калі яна з мужам вярталася дамоў, то на лесвічнай пляцоўцы першага паверха пах дыму адчуваўся. Жанчына тут жа апусцілася да дзвярэй кватэры суседа. Так і ёсць: з кватэры цягнула дымам. Жанчына пазваніла, але з кватэры ніхто не адгукнуўся. Тады яна вярнулася дамоў, прапанавала мужу выклікаць пажарных, а сама зноў накіравалася да кватэры Карповічаў. Знаў пазваніла — цішыня. Званіла настойліва і працягла. Нарэшце, дзверы расчыніў сам Сяргей Васільевіч, які паспяшаўся запэўніць суседку, што ў яго кватэры ўсё ў поўным парадку, хоць праз расчыненыя дзверы густы дым паваліў на лесвічную пляцоўку. Жанчына рашуча адхіліла гаспадара і зайшла ў пакой. Сапраўдная дымавая заслона стаяла ў прыхожай, а найбольш задымленым аказаўся ванны пакой. Як высветлілася, прачнуўшыся ад званка, Сяргей Карповіч заўважыў гарэўшую коўдру і тут жа пацягнуў яе ў ванну, але ўключыць ваду не паспеў, бо суседка надта настойліва націскала на кнопку званка. Разам яны патушылі і коўдру, і іншыя пасцельныя рэчы, што дыміліся на ложку.

*А. ХУДЗІНСКІ,*
*ст. інспектар ДПН АВПС Івацэвіцкага раёна.*

●НА ТЭМЫ ВЫХАВАННЯ

# МАЛАЛЕТКІ Ў ПАЛОНЕ БАХУСА

Яшчэ не забыўся нядаўні жудасны выпадак у Івацэвічах, калі школьнік загінуў менавіта з-за таго, што занадта перабраў у піве, быў пакінуты сябрукамі ў падвале, і, як устанавіла экспертыза, захлынуўся ад уласных ірвотаў. На жаль, гэта не стала урокам для іншых падлеткаў-выпівак. З кожным годам колькасць іх у Івацэвічах і раёне павялічваецца.

Нельга сказаць, што бацькі і школы не вядуць ніякай работы, не змагаюцца з малалетнімі п'яніцамі і выпівакамі. Пэўная работа праводзіцца. Але адной школе ні ў якім разе не справіцца з гэтай заганнай з'явай. Патрэбна сумесная і мэтанакіраваная дзейнасць у школе, у сям'і, у інспекцыі па справах непаўналетніх. Але, лічу, самае галоўнае ў тым, каб выхаваннем дзяцей па-сапраўднаму займаліся ў сям'і. Не сакрэт, якая сям'я, такія і дзеці. Хаця, як кажуць, у сям'і не без вырадка.

Так, дзесяцігадовы вучань СШ № 2 райцэнтра, назавём яго Андрэем, украў дома і прынёс у свой клас паўтаралітровую бутэльку самагонкі. І вучні ўмудрыліся яе выпіць. Гэта яшчэ шчасце, што ўсё закончылася без сумных вынікаў.

Другі прыклад. 22 лістапада вучань сярэдняй школы № 2 г. Івацэвічы быў запрошаны на дзень нараджэння да свайго сябра. Маці дала сыну грошы, каб уручыць імянінніку, але той іх не ўзяў. Маючы ў руках грошы, хлопец рашыў купіць гарэлкі і напіцца або нават памерці. Міліцыя падабрала школьніка ў стане поўнай адсутнасці памяці. Калі хлопец апрытомнеў, ён растлумачыў, што напіўся з-за таго, што ў іхняй сям'і няма ладу. Бацька прыходзіць дамоў п'яны, часта скандаліць, выганяе ўсіх з дому, прыходзіцца начаваць у іншых людзей.

Вядома, што ў такой сям'і пакутуюць перш за ўсё дзеці. Якімі яны вырастуць? Добрымі, злымі, сябелюбцамі ці чалавеканенавіснікамі? Хто ведае. Але факт застаецца фактам, што ў такой сям'і дзеці, як правіла, маральна пакалечаныя і вывесці іх у людзі ўдаецца не часта.

А вось яшчэ нядаўні выпадак. 3 лістапада навучэнец Івацэвіцкага ПТВ-162 М. не начаваў дома, а ў свайго сябра, бацькі яго перабраліся ў новы дом, а сын застаўся ў ранейшай кватэры. Тут



сябрукі знайшлі бацькавы грошы і вырашылі пагуляць. Навучэнец ПТВ перастаў хадзіць на заняткі. Яго напарнік, закончыўшы дзевяць класаў, далей не вучыўся, а проста гультаяваў.

Бацькі гэтых хлопцаў не з беднай кагорты беларусаў, таму, відаць, і дзеці вядуць сябе вельмі свабодна, не даражаць бацькоўскай капейкай. Грошы, якія трапілі ў іх рукі (а гэта больш як тры дзесяткі мільёнаў), былі пушчаны, як кажуць, на вецер і прынеслі ў сем'і абодвух малалетніх выпівак, акрамя матэрыяльнай страты, горыч, недаўменне, нават разгубленасць. Маўляў, нічога ніколі не шкадавалі сваім нашчадкам: апрануты, абуты, накормлены, на асабістыя расходы грошы мелі і вось такі казус.

На мой погляд, такі зыход не выпадковы, карані яго там, у сям'і, у сямейным выхаванні. Не можа быць, каб бацькі не ведалі, дзе яны аслабілі тыя бацькоўскія лейцы, як сталася, што іх дзеткі адразу ж аказаліся ў палоне Бахуса. Канешне, ім, бацькам, самім трэба разабрацца са сваімі дзеткамі-малалеткамі, каб не папасці яшчэ ў горшае становішча і каб іхнімі нашчадкамі не пачалі больш грунтоўна займацца праваахоўныя органы.

Асобна хочацца сказаць пра кампанію так званых валасатых. Яны называюць сябе панкамі. Галоўны іх занятак — п'янства і бадзянне па вуліцах, што дастаўляе шмат непрыемнасцей жыхарам і наведвальнікам горада.

Гэта адбылося 21 лістапада. Дарослыя хлопцы запрасілі двух тых валасатых да сябе ў госці, а там запрошаныя малалеткі напіліся, а потым пацягнуліся на дыскатэку. Адтуль іх, п'яных, прыйшлося даstaўляць дамоў ужо міліцыі.

Цікава, што аднаго з гэтых падлеткаў (назавём яго ўмоўна Ігарам) маці заўсёды не пускала ў хату, калі ён прыходзіў на добрым падпітку. Так было і на гэты раз. Цягала сына за валасы і выгнала з дому.

Ужо ў інспекцыі па справах непаўналетніх б'юць трывогу з прычыны частых запояў гэтага падлетка, накіроўваюць яго на абследаванне, але маці не згаджаецца, "выхоўваючы" яго частым цяганнем за валасы і тым, што не пускае на начлег у кватэру. Вядома, што такім метадам нічога станоўчага не атрымаецца. А хлопец на вачах у бацькоў проста гіне. І фізічна, і маральна.

Вядома, дзе п'янства, там і злачыннасць. У мінулым годзе 101 падлетак затрыманы ў нецвярозым стане. Імі ўчынена 85 правапарушэнняў, 33 злачынствы. Некаторыя з непаўналетніх асуджаны. На 14 бацькоў накіраваны справы ў суд на пазбаўленне іх бацькоўскіх правоў. Так што становішча з п'янствам і злачыннасцю сярод падлеткаў не толькі насцярожвае, але і трывожыць. На жаль, вельмі мала нашых бацькоў, якія па-сапраўднаму клапоцяцца пра сваіх нашчадкаў, пра іх вучобу, працу, паводзіны. А гэта прыводзіць да самых непажаданых учынкаў, адкуль і пачынаецца маральнае падзенне маладых людзей, яшчэ нават не пасталеўшых у жыцці.

Адзін з рускіх пісьменнікаў сказаў неяк, што "людзі, як расліны, якія не растуць удала, калі за імі няма добрага догляду". Гэта выслоўе можна цалкам аднесці і да нашых івацэвіцкіх "герояў" і іх бацькоў. Бо выхаванне дзяцей у сям'і (яшчэ раз хачу падкрэсліць) — гэта самае найпершае, самае важнае і неабходнае.

*С. КАЖАДУБ.*
*г. Івацэвічы.*

